

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№175 (688) 7 верасня 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.


## ФАКС

### Саммит перенесен

**Заседания Советов глав государств и глав правительств СНГ, которые должны были состояться 7 сентября в Москве, перенесены предположительно на 23—24 сентября.**

Произошло это по просьбе президента Украины Леонида Кравчука.

Основным вопросом встречи должно стать рассмотрение проекта договора о создании экономического союза, подготовленного Координационно-консультативным комитетом СНГ.

**Виктор ДЯТЛИКОВИЧ.**

### Эксперты прилетели

**Вчера с четырехдневным рабочим визитом в Беларусь прилетели из США 15 военных экспертов.**

Вместе с представителями научно-технического комитета Министерства обороны Беларуси они обсудят вопросы конверсии и рекультивации военных городков, ранее принадлежавших ракетным войскам стратегического назначения.

**Борис ШАВАРСКИЙ.**

### Спортсмены поневоле

**На протяжении недели жители Постав и района поневоле стали "любителями" спортивной ходьбы.**

Из-за отсутствия бензина остановился городской и пригородный автотранспорт, на междугородные маршруты выходят только "Икарусы", для которых есть запас дизтоплива. Горючего нынче едва хватает, чтобы обеспечить почтовую связь, работу "скорой помощи", вывезти собранный урожай.

**Владимир ШИК.**

❑

Из-за нехватки бензина в Глубокском районе полностью прекращено движение пригородных автобусов.

**Виктор ЛУГОВСКОЙ.**

### Открытый конкурс закрытого общества

**Закрытое акционерное общество "Фонд развития Могилева" учредило именные стипендии П.М.Машерова.**

Заявки на соискание стипендии уже принимаются конкурсной комиссией под председательством Полины Андреевны Машеровой. Кандидаты, согласно условиям, обязательно должны быть уроженцами Могилева или области, отлично учиться, заниматься научной, литературной, общественной работой и обладать высокой нравственностью. Место учебы значения не имеет.

**Ирина ФЕДОРОВА.**

### Полку пожарных прибудет

**На сто человек увеличится пожарная служба Могилевщины.**

Такое решение принято облисполкомом.

**Николай КОМЛЕВ.**



### Вкратце

**Торгово-промышленная палата Беларуси и торгово-промышленная палата "Швейцария—Беларусь" (Швейцария) подписали в Минске соглашение о сотрудничестве.**

Им предусматривается оказание содействия предприятиям и организациям нашей республики и Швейцарии в развитии деловых связей.

❑

**13 сентября в Минске открывается международный семинар "Тепловые насосы и холодильные устройства".**

В организации этого семинара, учитывая особенную важность экономии энергетических ресурсов, принимает участие правительство республики.

❑

**В Кремле в понедельник состоялась встреча президента Российской Федерации Бориса Ельцина с осуществляющим полномочия президента Председателем Верховного Совета Азербайджанской Республики Гейдаром Алиевым.**

Они обсудили состояние и перспективы российско-азербайджанских отношений.

❑

**Руководитель Грузии Эдуард Шеварднадзе заявил о существовании в республике реальной угрозы гражданской войны.**

Вчера грузинский лидер охарактеризовал положение в западной Грузии, где активизировались сторонники экс-президента, как "крайне тяжелое", в то же время он высказался за продолжение переговоров, процесса примирения с звиадистами.

❑

**Вопрос об отставке премьера Украины Леонида Кучмы можно считать решенным, сообщило в воскресенье национальное телевидение со ссылкой на независимое агентство УНИАН.**

По его данным, президент страны Леонид Кравчук дал согласие на отставку премьера. Дело за указом и парламентом, который должен его утвердить.

❑

**Иранское правительство окажет Азербайджану помощь в организации лагеря беженцев близ границы с Ираном примерно на 150 тыс. человек.**

По данным из Баку, сейчас у границы с Ираном скопилось более 200 тысяч беженцев.

❑

**Власти Узбекистана приняли решение сохранить на прежнем уровне плату за жилье, оставшееся после приватизации в муниципальной собственности.**

Сделано это с учетом того, что в нем в основном проживают инвалиды, престарелые люди, малоимущие граждане, которые не смогли приобрести свои квартиры в личную собственность.

❑

**Известный поэт, председатель правления Союза писателей Дагестана Расул Гамзатов награжден орденом Дружбы народов.**

Указ об этом подписал 6 сентября президент России Борис Ельцин, сообщила его пресс-служба.

### Наши студенты в Америке

**Граждане нашей республики, а также России, Украины, Грузии, Эстонии, Латвии и Литвы теперь имеют реальный шанс поучиться годик-другой в Соединенных Штатах Америки. Такую возможность предоставляет программа стипендий имени Эдмунда С.Маски.**

Перспектива учебы в Америке открывается для 150 стипендиатов. Стипендии будут присуждаться на основании открытого конкурса. По окончании учебы вручается диплом или присваивается ученая степень по направлениям: управление коммерческой деятельностью, государственное управление, юриспруденция, экономика.

### Сколько чемоданов компромата у А.Лукашенко?

**Председатель Временной парламентской комиссии по изучению коммерческой деятельности структур, созданных при органах власти и управления, А.Лукашенко провел совещание в Витебске с местными руководителями контрольных и правоохранительных органов.**

Создано областное подразделение республиканской комиссии во главе с народным депутатом Е.Г.Лущкевичем. По словам Лукашенко, местные власти стараются скрыть материалы о злоупотреблениях, мешают работать оперативникам, но "ужасные, масштабные преступления" чиновников различных, в том числе и очень высоких рангов все-таки будут обнародованы на очередной сессии Верховного Совета. Председатель комиссии считает, что ей необходим статус чрезвычайной.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### *Дежурная часть*

**Рабочий Минского часового завода, поссорившись с матерью и сестрой, нанес им несколько ударов железякой.**

От полученных ран мать скончалась на месте, сестра помещена в больницу.

Предполагается, что он психически болен.

❑

**На железнодорожном перегоне Минск—Колядичи в районе столичной улицы Асаналиева обнаружен труп мужчины.**

Как оказалось, он был задушен в своей квартире двумя собутыльниками, которые затем выволокли труп... Один из преступников — рабочий Минского тракторного завода — задержан.

Всего за прошедшие выходные в республике совершено семь убийств.

**Андрей АРШАНСКИЙ.**

### В забой не отправился парень молодой

**Трудовые коллективы около 100 шахт 30 угольных разрезов участвовали в понедельник во всероссийской суточной забастовке шахтеров, объявленной Независимым профсоюзом угольной промышленности России (НПУП).**

НПУП, в частности, настаивает на выполнении Москвой принятых ранее обязательств по финансированию угледобывающей отрасли за 8 месяцев этого года. По данным профсоюза, задолженность правительства угольщикам на сегодняшний день превышает 700 млрд. рублей.



**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

### *Раўненне на сцяг!*



## "Служу народу Рэспублікі Беларусь..."

**Андрэй АРШАНСКІ, Сяргей ГРЫЦ (фота)**

**Першая нядзеля верасня будзе асабліва памятнай для курсантаў Мінскага агульнавайсковага і Мінскага вышэйшага інжынерна-зенітнага ваенных вучылішчаў. У гэты дзень яны прынялі прысягу на вернасць беларускаму народу. Урачыстая цырымонія адбылася на плошчы Незалежнасці.**

З пажаданнямі ўсяго найлепшага звярнуўся да курсантаў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі С.С.Шушкевіч.

Беларусь — міралюбівая дзяржава, якая нікому не пагражае і імкнецца да нейтралітэту. Але ён павінен быць падмацаваны ваеннай магутнасцю, якая адаб'е ў кожнага ўсякае жаданне праверыць нашу сілу. Міністр абароны П.П.Казлоўскі павіншаваў курсантаў з урачыстым момантам у іх жыцці. Над строем ваеннаслужачых тры разы пранеслася гучнае "ура".

На прысягу прыйшлі бацькі хлопцаў, любімыя дзяўчаты, сябры. Нехта з жанчын выціраў слёзы шчасця, бацькі, гледзячы на сыноў, успаміналі ўласныя армейскія будні. На змену прыйшлі дзеці. Праз некалькі гадоў яны стануць афіцэрамі, і кожны будзе ахоўнікам шчасця і бяспекі свайго народа. Нічога, што лье дождж, як кажуць, дождж на пачатку шляху — прыкмета добрая.

### *З грамадскай прыёмнай "Народнай газеты". Тэл. 29-60-86.*

## Хто адкажа на "дзіцячае пытанне"?

**Настойлівы "міжгорад" прагучаў у пятніцу.**

Са Светлагорска ад нашага пастаяннага чытача паступіла паведамленне, якое прымусіла нас адразу звязацца з мясцовым РАУС: за апошнія некалькі месяцаў у горадзе зніклі без вестак чацвёра хлопчыкаў-падлеткаў.

Як дадаў начальнік Светлагорскага РАУС Уладзімір Антонавіч Асіпенка, у знікненні дзяцей сапраўды шмат невытлумачальнага. Са мноства версій, якія прапрацоўвае мясцовая міліцыя, выключыць можна хіба меркаванне аб крадзяжы дзяцей з мэтай атрымання грашовага выкупу: гэтыя дзеці з небагатых працоўных сем'яў.

Усе астатнія версіі таксама не маюць дастатковай колькасці доказаў. У горадзе з'явіўся маньяк? Аднак не знойдзены сляды насілля.

Можа, дзяцей звяла якая-небудзь рэлігійная секта накшталт незаконнага "Вялікага белага брацтва"? Але апошні час і "братоў" у Светлагорску не бачылі.

Пошук працягваецца, і, нягледзячы на разрыў усялякіх сувязей, не толькі на Беларусі. Праз Міністэрства ўнутраных спраў пра вышук паведамлена ўсім раённым аддзяленням міліцыі ў Расіі, Малдове і на Украіне, ва ўсіх буйных гарадах вісяць плакаты з фатаграфіямі хлопчыкаў.

Пра тое, што іх лёс хвалюе не толькі родных і блізкіх, сведчыць і гэты, пятнічны, званок у рэдакцыю.

**У грамадскай прыёмнай дзяжурыла Ірына ДЗЯРГАЧ.**



### *Ліст з рэдакцыі*

## Падпіска на "Народную газету" пачалася, але можа хутка завяршыцца...

Горка, але факт: падпіска на газеты і часопісы цяпер будзе афармляцца не на год і не на паўгоддзе, а толькі на тры месяцы. Ці згодны з гэтым у рэдакцыі "Народнай газеты"? Вядома, не. Але што да гэтага тым, хто прымае такія рашэнні? Хаця заўважым: калі дзяржава не можа ўзяць на сябе адказнасць за развіццё падзей нават у бліжэйшае паўгоддзе — значыць, не ўсё нармальна з боку кіравання гэтай дзяржавай. І не трэба крыўдзіцца на журналістаў "Народнай газеты", якія з нумара ў нумар б'юць трывогу аб лёсе нашай шматпакутнай Беларусі.

У адным з нядаўніх інтэрв'ю начальнік "Мінскай пошты" А.Малыка сказаў, што пайсці на вышэйадзначаны крок вымушаны ў значнай ступені з-за таго, што паштовыя паслугі, у тым ліку і дастаўка перыёдыкі, стратныя. Маўляў, не толькі сувязісты, але і выдавецтвы, і рэдакцыі не хочуць рызыкаваць, інфляцыя можа з'есці атрыманыя ад падпіскі грошы ўжо ў першы месяц новага года.

Усё можа быць, інфляцыя сапраўды пражэрлівая. Але ж што значаць тады словы кіраўнікоў урада наконт таго, што дзяржава падтрымлівае сродкі масавай інфармацыі? Калі так, як "Народную газету", то, як кажуць, дзякуй у шляпу. Некалі яшчэ пры заснаванні Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў рашэнне аб выдзяленні сродкаў на набыццё камп'ютэрнай тэхнікі і фотаапаратуры. Не паспелі купіць чатыры фотаапараты, як рахунак быў замарожаны. Калі б не дапамаглі добрыя людзі з вядомых прадпрыемстваў рэспублікі — цяжка сказаць, як выжыла б "Народная газета".

Пасля завяршэння падпіскі на першае паўгоддзе 1993 года Міністэрства сувязі загадзя ўтрымала з агульнай сумы амаль 70 мільёнаў рублёў — такія расходы планаваліся на экспедзіраванне, распаўсюджванне і дастаўку газеты. На нарадах, якія праводзіліся ў Савеце Міністраў, прадстаўнікі "Народнай газеты" неаднойчы ставілі пытанне, што гэта зроблена з парушэннем правоў рэдакцыі — газета будзе распаўсюджвацца толькі са студзеня (па чэрвень уключна), а грошы вылічаны з рэдакцыйнага бюджэту напярэдадні, за 2—8 месяцаў. Абнадзейвала толькі тое, што ўрад паабяцаў усім вядучым рэспубліканскім выданням кампенсаваць расходы, звязаныя з экспедзіраваннем, распаўсюджваннем і дастаўкай газет. Гэта — не дабрачыннасць, амаль ва ўсіх краінах свету пошта датуюецца з дзяржаўных бюджэтаў. Чаму ж у нас яна павінна ўтрымлівацца рэдакцыямі газет і часопісаў?

Дарэчы, прайшло болей васьмі месяцаў, пакуль "Народная газета" дачакалася кампенсацыі. Але ж вы, шаноўныя чытачы, ведаеце, што можна было купіць за 70 мільёнаў рублёў у лістападзе—снежні мінулага года і што можна мець за іх сёння, калі кошт тоны паперы падняўся за гэты час у дзесяткі разоў і перавышае 800 тысяч рублёў. Гэта не кампенсацыя, а толькі выгляд кампенсацыі, а дакладней — абдзіралаўка. Каб вытрымаць, рэдакцыйнаму калектыву даводзіцца прыкладваць надзвычайныя намаганні. Не ад добрага жыцця мы ў апошні час змяшчаем рэкламу не на дадатковых старонках, а ў стандартных чатырохпалосных нумарах. Паправім фінансавае становішча — і вернемся да ранейшай практыкі. Для нас інтарэсы падпісчыкаў (а іх болей чым у любой іншай рэспубліканскай газеты — звыш 500 тысяч) — галоўныя інтарэсы.

Цяжка вам, шаноўныя прыхільнікі "Народнай газеты", цяжка нам, журналістам, карэктарам, аператарам электроннага набору і вёрсткі, спецыялістам па рэкламе, усім, хто робіць газету. Але будзем спадзявацца, што і ў будучым годзе мы не разлучымся. Нягледзячы на пэўную рызыку, мы зрабілі ўсё, каб "Народная газета" была даступнай для кожнай сям'і. Вось кошт некаторых рэспубліканскіх выданняў на студзень—сакавік 1994 года:

| | |
|---|---|
| **"Народная газета"** | **— 1.200** |
| "Советская Белоруссия" | — 2.100 |
| Белорусская нива" | — 1.200 |
| "Знамя юности" | — 1.200 |
| "Рэспубліка" | — 1.200 |
| "Звязда" | — 1.005 |

Значна падымаецца кошт маскоўскіх выданняў. Каб атрымліваць на працягу квартала "Комсомольскую правду", трэба выкласці 2.670 рублёў. Параўнайце з падпісным коштам "Народнай газеты" — і рабіце вывады.

Падпіска толькі-толькі пачалася. Але не адкладвайце ўсё на позні час. Напамінаем індэкс "Народнай газеты" — 63868. Можа так здарыцца, што рэдакцыя вымушана будзе абмежаваць падпіску. Таму хто паспее — той паспее.

**Рэдакцыя "Народнай газеты".**

### *Смеху варта!*

## Вучоныя, але не надта

**Нягледзячы ні на якія інфляцыйныя працэсы, з зайздросным пастаянствам, як і ў хрушчоўскія часы, школьныя настаўнікі, што маюць вучоную ступень кандыдата навук, атрымліваюць кожны месяц даплату ў 30 рублёў, а дактары навук — усе 50. Чым не матэрыял для Кнігі Гінэса?**

Спроба адказных работнікаў Міністэрства адукацыі і Дзяржкампрацы апраўдаць такое становішча тым, што наяўнасць вучонай ступені ўлічваецца пры прысваенні настаўніку адпаведнай катэгорыі, не вытрымлівае крытыкі ўжо таму, што вышэйшую катэгорыю можна атрымаць і без усялякай вучонай ступені. І нават тое, што адміністрацыя можа педагогам за вынікі працы ўстанаўліваць персанальныя надбаўкі да 50 %, не вырашае праблемы, бо іх можна ўстанавіць, а можна і не. Такія надбаўкі даюцца толькі на год і толькі пры наяўнасці фонду зарплаты.

Цікава, што матэрыяльнае заахвочванне настаўнікаў у павышэнні свайго адукацыйнага і прафесійнага ўзроўню ўсё ж існуе для пэўных груп педагогаў. Так, настаўнік агульнаадукацыйнай школы, які мае толькі сярэднюю адукацыю, атрымлівае менш, чым той, хто мае дыплом аб заканчэнні сярэдняй спецыяльнай установы. Аналагічным чынам павышаецца стаўка і тым, хто скончыў ВНУ. А вось калі хто адгукнуўся на заклікі да бесперапыннай адукацыі і павысіў свае веды яшчэ на адну ступеньку — скончыў аспірантуру, то ніякага павышэння зарплаты ён не атрымае.

Укладзены ў асвету рубель дасць потым шматразовую аддачу. Ці ў Міністэрстве адукацыі і Дзяржкампрацы не згодны?

**Валерый БОЛБАС, член пастаяннай камісіі па адукацыі Гомельскага абласнога Савета народных дэпутатаў.**

### *Возвращаясь к напечатанному*

## Генеральному прокурору "шили" дело. Штопанное белыми нитками

**26 июля 1993 года в "Народной газете" было опубликовано открытое письмо народного депутата Республики Беларусь Василия Леонова, в котором он обвиняет Генерального прокурора республики В.И.Шолодонова в несоблюдении законов и покрывательстве злоумышленников, похитивших два года назад 28 миллионов чернобыльских денег. Прошел месяц, и редакция по требованию многих читателей решила обратиться к Василию Ивановичу Шолодонову с просьбой высказать свое мнение на предъявленные обвинения.**

**— Василий Иванович, по правде говоря, у множества читателей была уверенность, что если не назавтра после столь резкой публикации, то через несколько дней в одном из районных народных судов столицы окажется ваше исковое заявление на депутата Леонова о защите чести и достоинства .**

— Депутат Леонов, видимо, тоже надеялся, что я сразу же побегу оправдываться в суд и газету . Не стал этого делать.

Во-первых, не хотелось портить себе и близким летний отдых, поскольку я прочитал письмо, будучи уже в отпуске. Не намерен транжирить рабочее время и сейчас. Если бы я аккуратно вызывал каждого из своих газетных обидчиков в суд, то, поверьте, работать мне было бы некогда.

**— Но найдется обыватель, который ваше нежелание бросать ответную перчатку расценит однозначно — шума без воды не бывает. Ведь сегодня ничего не стоит затянуть расследование под видом чрезмерной загруженности седователей.**

(Окончание на 3-й стр.)

*Думка народнага дэпутата Рэспублікі*

# Каму на Беларусі выгадна адзіная рублёвая зона?

**Уладзімір НОВІК, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь**

На сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД, якая плануецца ў верасні, будзе вырашацца лёс так званай адзінай рублёвай зоны. Апошнім часам у беларускіх урадавых і дзелавых колах шмат гаворыцца аб тым, што нам вельмі выгадна знаходзіцца ў адзінай рублёвай зоне. Асабліва любяць гэтую "казку" Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч, міністр фінансаў С. Янчук і іншыя высокапастаўленыя асобы, адказныя за стан эканомікі ў рэспубліцы. Аднак ніхто з іх ні разу не растлумачыў людзям — што такое адзіная рублёвая зона. Фактычна сёння пад адзінай рублёвай зонай разумеецца спіс краін СНД, якія дапускаюць у сваім грашовым абарачэнні расійскі рубель адначасова з нацыянальным плацежным сродкам. Прычым, заўважце, Расія пры гэтым не дапускае абарачэння на сваёй тэрыторыі плацежных сродкаў другіх краін Садружнасці. Такое становішча негатыўна сказваецца не толькі ў эканоміках краін — партнёраў СНД, але і з'яўляецца крыніцай негатыўных з'яў у сферы міжнацыянальных зносін. Тым не менш пэўныя палітычныя сілы не стамляюцца запэўніваць народ, што, толькі знаходзячыся ў рублёвай зоне, мы пераадолеем страшэнны эканамічны крызіс. Ды і сярод новаспечаных беларускіх камерсантаў нямала гарачых прыхільнікаў расійскага рубля. Зрэшты, дзіўнага тут нічога няма. Для першых гэта апошні шанц на адраджэнне былой камуністычнай імперыі, а для апошніх - спосаб зарабляць вялікія капіталы на плацежных праблемах у адзінай рублёвай зоне. Але ці выгадна застаецца ў гэтай рублёвай зоне астатнім жыхарам рэспублікі: сумленным бізнесменам, звычайным рабочым, сялянам ці інтэлігентам? Каб адказаць на гэтае няпростае і вельмі важнае пытанне, напачатку давайце прасочым за храналогіяй падзей, якія адбываліся ў сферы фінансава-крэдытных і грашовых адносін паміж Беларуссю і Расіяй у апошнія паўтара года.

**Снежань 1991 года.** Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў новае падатковае заканадаўства Беларусі, якое носіць фіскальны характар. Асабліва вялікія падаткі былі ўстаноўлены для камерцыйных банкаў. Напрыклад, стаўка на прыбытак для апошніх склала 44%, што ў паўтара раза болей, чым у Расіі. Тады і пачалося згортванне фінансавай актыўнасці ў Беларусі і ператок капіталаў ў Расію. Хаця рэспубліка магла стаць падатковым прыстанішчам і цэнтрам фінансавай актыўнасці ў межах СНД.

**Студзень 1992 года**. Пачатак лібералізацыі цэн у Расіі. Беларусь са спазненнем спрабуе абараніць свой рынак і эканамічныя інтарэсы візітнымі карткамі пакупніка, талонамі, купонамі і іншымі вынаходніцтвамі нашага ўрада. Аб уласнай грашовай палітыцы ў Саўміне нават і думаць не хочуць. І як вынік — масавае рабаванне спажывецкага рынку Беларусі, паколькі цэны тут ніжэйшыя, чым у краінах-суседзях. Абясцэненыя грошы з усёй тэрыторыі былога СССР імкліва пацяклі да нас. Узнікае масавы спекуляцыйны бізнес, пабудаваны на перакосах цэн і нераўнамерных выплатах насельніцтву ў розных рэгіенах былога СССР.

**Май 1992 года.** У сувязі з ростам інфляцыі і вострым дэфіцытам грашовай наяўнасці ўрад Беларусі выпускае разліковыя білеты Нацыянальнага банка - "зайчыкі", якія ўводзяцца ў грашовае абарачэнне на нашай тэрыторыі нараўне з банкнотамі Дзяржбанка СССР і Банка Расійскай Федэрацыі. Зайчыкі друкуюцца ў Расіі бясплатна. Як вядома, дармовым бывае толькі сыр у пастцы, таму ўзнікае пытанне: чаму Масква вырашыла пастаўляць нам грашовую наяўнасць "зайчыкамі", а не расійскімі рублямі? Адказ просты. Расійскія ўрадавыя стратэгі пачалі фарміраваць дамінуючую ролю свайго рубля ў межах СНД і адначасова трымаць пад кантролем грашовае абарачэнне ў краінах так званай рублёвай зоны. Гэта дазваляе Расіі нават пры высокіх тэмпах інфляцыі пераразмяркоўваць нацыянальныя даходы краін — партнёраў па СНД на сваю карысць.

**Чэрвень 1992 года**. Па ініцыятыве Цэнтральнага банка Расіі паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй з 1.06.92 уведзена клірынгавая сістэма разлікаў праз карэспандэнцкія рахункі Нацыянальных (Цэнтральных) банкаў дзяржаў. Гэта акцыя Цэнтрабанка РФ паклала пачатак дыферэнцыяцыі безнаяўных плацежных сродкаў у межах СНД на расійскія і нерасійскія. Аперацыі па карэспандэнцкіх рахунках павінны праводзіцца ў межах сродкаў на іх. Такім чынам, значна ўскладнілася сістэма разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання Беларусі і Расіі. Ствараюцца камерцыйныя структуры, якія паскараюць пераводы грошай з Беларусі ў краіны Садружнасці і наадварот, зарабляючы на гэтым немалыя капіталы. Нагадаю, што падатковае заканадаўства нашай рэспублікі, прынятае у снежні 1991 года, ужо паспрыяла перамяшчэнню фінансавай актыўнасці іператоку вялікіх капіталаў у Расію. Такі крок Цэнтрабанка Расіі ўмацоўвае пазіцыі расійскага рубля і вымушае беларускіх гаспадарнікаў па магчымасці трымаць свае грошы на тэрыторыі РФ для зручнасці разлікаў з расійскімі партнёрамі.

**Жнівень 1992 года.** У сувязі з адсутнасцю свабодных сродкаў на карэспандэнцкім рахунку Нацыянальнага банка нашай рэспублікі і з мэтай бесперапыннага правядзення плацежных аперацый паміж Беларуссю і Расіяй Цэнтральным банкам Расійскай Федэрацыі выдзелены беспрацэнтны тэхнічны крэдыт Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь у суме 40 млрд. руб. у адпаведнасці з Пагадненнем аб арганізацыі разлікаў з далейшым павелічэннем яго да 80 млрд. рублёў.

**Студзень 1993 года.** Беларусі дадаткова выдзяляецца на 1993 год тэхнічны крэдыт у памеры 150 млрд. рублёў. На карэспандэнцкім рахунку Нацбанка катастрафічна не хапае безнаяўных расійскіх рублёў для разлікаў за паступленне энергарэсурсаў і іншых стратэгічных тавараў з Расіі.

**11 чэрвеня 1993 года.** На адрас Нацыянальнага банка Беларусі паступіла ультыматыўная тэлеграма ўрадавай камісіі Расійскай Федэрацыі па пытаннях крэдытнай палітыкі, дзе прапануецца прыняць заканадаўчы акт аб выкарыстанні законнага плацежнага сродку на сваёй тэрыторыі расійскага рубля і дэлегіраванні Цэнтральнаму банку РФ паўнамоцтваў рэгуляваць аб'ёмы крэдытнай эмісіі і ажыццяўляць эмісію грашовай наяўнасці.

**30 чэрвеня 1993 года.** Урад Рэспублікі Беларусь прызнаў запазычанасць па тэхнічных крэдытах, атрыманых Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь у Цэнтральным банку Расійскай Федэрацыі ў 1992—1993 гадах у суме **177.3 млрд. рублёў Расійскай Федэрацыі**, і даў згоду на пераафармленне гэтай запазычанасці ў міжурадавы крэдыт, які лічыцца выдадзеным урадам РФ і атрыманым урадам Рэспублікі Беларусь. Велічыня прадастаўленага крэдыту эквівалентна **385.4 млн. долараў ЗША** і разлічана па ўзгодненаму Цэнтральным банкам Расійскай Федэрацыі і Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь для гэтай мэты курсу.

**6 ліпеня 1993 года**. Вярхоўны Савет Беларусі не падтрымаў прапанову Нацыянальнага банка рэспублікі аб упаўнаважанні Нацбанка і Савета Міністраў правам забяспечыць увядзенне нацыянальнай валюты ў выпадку недасягнення з Расіяй і іншымі ўдзельнікамі СНД дамоўленасці аб утварэнні Валютнага саюза на аснове роўнасці і ўзаемнай выгады.

**26 ліпеня 1993 года**. Цэнтральны банк РФ у аднабаковым парадку без узгаднення з краінамі Садружнасці, якія таксама выкарыстоўваюць рубель у якасці плацежнага сродку, спыніў абарачэнне на ўсей тэрыторыі Расійскай Федэрацыі банкнот Дзяржбанка СССР і Банка Расіі ўзору 1961—1992 гадоў. Гэта гвалтоўная акцыя практычна завяршыла працэс аддзялення расійскай грашовай і фінансава-крэдытнай сістэмы ад адпаведных сістэм краін — партнёраў па рублёвай зоне.

**Жнівень 1993 года.** Нацбанк Беларусі накіраваў у Савет Міністраў і Вярхоўны Савет рэспублікі праекты дакументаў аб прызнанні ў якасці адзінага плацежнага сродку на тэрыторыі Беларусі разліковага білета Нацыянальнага банка. У Мінску пачала функцыяніраваць Міжбанкаўская валютная біржа, якая раз на тыдзень праводзіць каціроўку, куплю і продаж валют. Паведамленне прэсы аб праекце Нацыянальнага банка справакавала ажыятаж у трымальнікаў валюты і беларускіх грошай, што выклікала рэзкае падзенне курса апошніх адносна долара ЗША. Дарэчы, чамусьці дэпутаты Вярхоўнага Савета нават пры вялікіх намаганнях так і не змаглі азнаёміцца з вышэйназваным праектам, а прадстаўнікам прэсы ён быў прадастаўлены без праблем. Сапраўды, цікавыя рэчы адбываюцца ў нашай грашовай палітыцы. Яе могуць фарміраваць нават журналісты, толькі не вышэйшыя органы ўлады.

Такім чынам, калі падсумаваць вышэйпрыведзеную кароткую храналогію падзей за апошнія паўтара года, то можна канстатаваць, што ў былой адзінай рублёвай зоне па ініцыятыве Расіі без узгаднення з Беларуссю безнаяўныя і наяўныя рублі аказаліся падзеленымі на беларускія і расійскія. Лагічным крокам з боку Беларусі павінна было стаць прыняцце пакета адпаведных заканадаўчых і нарматыўных актаў для ажыццяўлення комплексу мерапрыемстваў, звязаных з правядзеннем грашовай рэформы ў рэспубліцы. Але гэта зроблена не было з-за нявызначанай пазіцыі ўрада, і Беларусь працягвае жыць у грашовай нявызначанасці, несучы пры гэтым вялікія страты. Урад лічыць, што гэта выгадна для Беларусі. Ці думаюць так пра гэта жыхары рэспублікі?

Што палохае нашых урадавых стратэгаў і стрымлівае іх ад увядзення нацыянальнай грашовай адзінкі? **Па-першае**, пераход з боку Расіі на сусветныя цэны пры разліку за энергетычныя і сыравінныя рэсурсы. Безумоўна, пры сённяшняй сістэме эканамічных адносін гэта прывядзе да падзення канкурэнтаздольнасці беларускай прадукцыі на расійскім рынку і, магчыма, да яго страты. **Па-другое**, пераход на свабодна канверсуемую валюту ў сферы міждзяржаўных разлікаў. Відавочна, што гэтыя фактары могуць прывесці да калапсу беларускую эканоміку, паколькі яна абсалютна не падрыхтавана да такіх крутых змен.

Аднак і існуючы цяпер гандаль па ўзгодненых унутраных цэнах пры міждзяржаўным клірынгу з Расіяй таксама не заўсёды выгадны для Беларусі. Разгледзім даволі тыповы прыклад. Дапусцім, Беларусь павінна паставіць па клірынгу ў Расію за энергарэсурсы 100 тысяч тон калійных угнаенняў па цане 16 тысяч рублёў за тону. Аднак Расія заяўляе, што не можа знайсці спажыўцоў угнаенняў у сувязі з абмежаванай патрэбнасцю, але яна згодна залічыць іх кошт у суму клірынгавых разлікаў пры ўмове дазволу рээкспарту ў трэція краіны. Беларускі ўрад дазваляе рээкспарт, і ўгнаенні паступаюць, напрыклад, праз Прыбалтыку на еўрапейскі рынак па сусветных цэнах. Такім чынам, Беларусі па клірынгу залічваецца 16 тысяч рублёў за 1 тону калійных угнаенняў, а пасрэднік трэцяй краіны, магчыма, не толькі ён, атрымлівае прыблізна па 80 долараў ЗША за 1 тону, што эквівалентна курсу 200 рублёў за 1 долар ЗША. Вось такая простая арыфметыка паказвае, як і каму ў так званай адзінай рублёвай зоне можна зарабляць немалыя грошы дзякуючы недасканалай, а можа, і наўмысна створанай сістэме міждзяржаўных клірынгавых разлікаў па ўнутраных цэнах.

Дык каму ж тады выгадна так званая адзіная рублёвая зона, аб неабходнасці якой так настойліва гаворыць наш урад? Спекуляцыйным фірмам, што атрымліваюць прыбытак толькі ад вагання курсаў расійскага рубля да "зайчыка" і перакосу цэн у краінах СНД, звычайным прайдзісветам, якія з торбамі грошай з'явіліся на беларускіх базарах і каля стыхійна ўтварыўшыхся пунктаў абмену грашовых знакаў робяць свой бізнес на памылках беларускай дзяржаўнай фінансава-крэдытнай палітыкі. Абсалютна не зразумела, чаму такія структуры, як Нацыянальны банк і Саўмін, не жадаюць браць пад кантроль грашовае абарачэнне на Беларусі? Нам неабходна зараз або ўвесці ў абарачэнне дастатковую колькасць новых расійскіх рублёў, або выключыць іх з абарачэння ўвогуле. **У першым выпадку мы губляем кантроль над эканомікай сваёй краіны, а значыць, і суверэнітэт, перастаём быць самастойнай дзяржавай, а ў другім — бяром усю адказнасць за эканоміку на сябе з усімі вынікаючымі адсюль высновамі.** Што сёння перашкаджае пайсці па шляху самастойнасці: некампетэнтнасць урада ці няздольнасць беларускага народа будаваць сваю дзяржаву? Мяркую — першае. Раней дэфіцытам былі французкія духі, калготкі і іншыя якасныя заходнія тавары, а зараз расійскія наяўныя грошы. Імі, аказваецца, таксама можна выгадна спекуляваць у межах адзінай рублёвай зоны. Так што наш урад і Нацыянальны банк нядрэнна спрыяюць росквіту звычайнай спекуляцыі.

Вось калі б прэм'эру В. Кебічу пры яго паездках за крэдытамі у Маскву трэба было самому мяняць у крутых хлопцаў на Камароўцы "беларускіх зайцоў" на расійскія рублі, потым недзе каля вакзальных кас купляць білеты на цягнік у спекулянтаў, то пазіцыя ўрада адносна выгаднасці адзінай рублёвай зоны, магчыма, была б іншай. Па ўсім відаць, што ў прэм'ера праблем з транспартам і расійскай наяўнасцю няма.

А тым часам, пакуль урад і ягоны кіраўнік не жадаюць адмовіцца ад сваёй любові да расійскага рубля, ад нявызначанай двухсэнсоўнай грашовай палітыкі ў Беларусі, пакутуюць увесь просты люд і ў цэлым эканоміка рэспублікі. Нашы людзі пастаўлены ў няроўныя ўмовы з насельніцтвам, напрыклад, Расіі, не гаворачы пра Прыбалтыку, якая ўжо мае свае паўнацэнныя грошы, і больш высокія даходы. Штучна створаная праблема дэфіцыту наяўнасці расійскага рубля ў абарачэнні на тэрыторыі Беларусі вядзе да павелічэння яе намінальнага кошту адносна разліковага білета Нацыянальнага банка рэспублікі, хаця фармальна гэтыя знакі прызнаны роўнымі ў абарачэнні адпаведна з іх наміналам. Гэта дазваляе ўладальнікам новых расійскіх рублёў набываць тавары на Беларусі практычна ў два і болей разоў танней, чым тым, хто атрымлівае зарплату "зайчыкамі". У дзяржайным маштабе адбываецца пераразмеркаванне нацыянальнага даходу за кошт штучнага заніжанага курсу "беларускага зайчыка" да расійскага рубля.

Не можа быць утворана зона адзінага плацежнага сродку дзяржавамі, у якіх розныя падатковыя сістэмы, розныя кошты за энергетычныя і сыравінныя рэсурсы, розныя падыходы да эканамічных рэформ, розныя бюджэтныя палітыкі і г.д. Гэта або неразуменне невырашальнасці пастаўленай задачы, або прынцыповая адмова ад самастойнай дзяржаўнай палітыкі.

Таму адзінае выйсце для нас зараз — цывілізаванае размежаванне грашовай і фінансава-крэдытных сістэм краін СНД і ўтварэнне Валютнага саюза. Нельга было дапускаць стыхійнага распаду грашовай і фінансава-крэдытнай сістэмы СССР. Трэба было яшчэ, калі Гарбачоў знаходзіўся пры ўладзе, а працэсы дэзінтэграцыі былі ўжо непазбежныя, вырашыць станоўча пытанні ўвядзення нацыянальных валют у краінах СНД. Паколькі эканамічныя інтарэсы краін СНД цесна ўзаемазавязаны, то нармалізацыя міждзяржаўных разлікаў павінна грунтавацца на аснове Валютнага саюза краін, якія не толькі пажадаюць, але і будуць выконваць умовы ўваходжання ў гэты саюз, а рэгуляванне і абарону эканамічных інтарэсаў гэтых краін будуць выконваць іх нацыянальныя валюты.

І апошняе. Эканамічная і палітычная моцнасць любой дзяржавы грунтуецца на трох важнейшых фактарах: прыродных багаццях, капітале і працы. Прыродныя багацці ў нас невялікія. Капітал — матэрыяльныя, інтэлектуальныя, накопленыя каштоўнасці — таксама адносна невялікі, галоўным чынам з-за шматлікіх разбуральных войнаў і гістарычных катаклізмаў. Застаецца толькі праца. Але для яе высокай эфектыўнасці патрэбны адпаведныя ўмовы. Іх ствараюць рынчачная эканоміка, здаровая грашовая і фінансава-крэдытная сістэма, прадуманая дзяржаўная ўнутраная і знешняя палітыка. Пакуль што намаганні нашых урадавых стратэгаў накіраваны пераважна на праяданне замежных крэдытаў і захаванне камандна-адміністратыўнай сістэмы. За гэта прыйдзецца некалі плаціць. Але не цяперашняму і нават не наступнаму ўраду, а ўсім нам і нашым дзецям. Настаў час паставіць перад урадам пытанне аб стратах, якія панесла Беларусь у выніку яго некампетэнтных дзеянняў, і ў першую чаргу ў грашовай і фінансава-крэдытнай сферы.

*Рэпортер узнал*

## "Аэлита" на базары не повезет

**"Ни одной поездки с коммерческими целями!"**

Таков девиз новой витебской фирмы "Аэлита", решившей заняться международным туризмом в интересах людей, которые могут и хотят поистратиться на полноценный отдых, а не на базарную спекуляцию. Тех, кто побогаче, "Аэлита" приглашает в круизы по Средиземноморью и Скандинавии, а обладателей более тощих кошельков — в Болгарию и Румынию. В планах фирмы — организация доступного туризма для непритязательного слоя общества — молодежи, о чем уже идут переговоры с коллегами в Польше.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

*Резонанс*

## Явно промахнулся...

"За последний месяц в Минске участились нападения на водителей таксомоторов..." — так начинается заметка корреспондента РИД В.Чуясова в "Народной газете" за 21 августа с.г. В связи с этим возникает ряд вопросов. К примеру, на какие статистические данные опирается автор, делая такой "глобальный" вывод?

Сообщая читателям о том, что якобы август принес уже три таких случая, знает ли автор, что в нынешнем году в столице зафиксировано всего... два разбойных нападения на таксистов? Первый случился прошедшей весной — и уже раскрыт милицией. Судя по всему, второе сообщение из Советского района и есть та отправная точка, от которой отталкивается упомянутый газетчик.

Чтобы прояснить ситуацию и успокоить введенных в заблуждение читателей, отмечу: в стремлении в очередной раз "уколоть" столичную милицию "бездействием", на этот раз автор явно промахнулся. Похоже, просто ошибся в выборе "фактуры", которую мы с удовольствием предоставили бы ему для подготовки объективного материала.

Сегодня все водители государственных таксомоторов находятся под надежной защитой милиции. На этот счет существует и небезуспешно действует четкая система оповещения. Практически любой таксист через своего диспетчера напрямую связан с дежурным офицером, который контролирует в любое время суток "пульс" города. И если совершается злодеяние, то вероятность его оперативного раскрытия и задержания преступников намного повышена за счет целой массы факторов. К примеру, за счет мобильности самого потерпевшего, радированности его автомашины и многих других составляющих.

Маловероятно и то, что подобные конфликты имели место без последующих заявлений потерпевших в милицию. Как правило, такие серьезные преступления, как разбои, убийства и грабежи, не остаются без нашего внимания.

А может быть, автор имел в виду два августовских разбоя, зафиксированных в Минском (сельском) районе? В таком случае нужны уточнения. Ведь речь идет об информировании пятисот тысяч читателей.

**Борис ПИЛИПЕНКО, начальник УВД Минского горисполкома.**

*Здарэнні*

## Даходная крыніца

**Супрацоўнікамі Шчучынскага РАУС затрыманы два грамадзяніны Літвы, якія перавозілі 12 тон авіяцыйнай газы.**

Ніякіх дакументаў на такі каштоўны груз у іх не было. У выніку следства, да якога падключыліся ваенная пракуратура і супрацоўнікі контрразведкі, удалося ўстанавіць крыніцу газы. Яна аказалася на ваеннай авіябазе, размешчанай пад Шчучынам. Два старшыя лейтэнанты са службы ГЗМ воінскай часці паспелі ўжо, як высветлілася, прадаць прадпрымальным літоўцам 52 тоны гаручага і, напэўна, гандлявалі б ім яшчэ доўга, калі б чацвёрты па ліку важ у Літву не спынілі работнікі міліцыі.

**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ, Белінфарм.**

*Проблема*

## Лисичка просит защиты

Грибной сезон в разгаре. Ежедневно любители "тихой охоты" устремляются в леса. Несут не только кошелки и кошики. Волокут с собой грабли и похожие на них самодельные приспособления. Идет варварская охота за лисичками, желтый цвет которых в последние годы стал сродни золотому блеску.

Почему?

Заглянем на рогачевский рынок. Здесь продается все. Но особое внимание к грибам-лисичкам. Их скупают оптом и по цене 2000—3000 рублей за килограмм, плюс полкило сахара. Резон ли после этого жарить семье такие грибы, стоимость которых достигает стоимости полутора килограммов свинины?

А попробуйте спросить у "залетных" перекупщиков, зачем им так много даров леса, ответят:

— То не лисички, то доллары.

И в самом деле. В Гродно килограмм грибов стоит уже 7—7,5 тысячи рублей. При такой цене даже самый большой любитель природы берется за грабли, дерет мох, лесную подстилку, а вместе с ней и грибницу. Сведущие люди говорят, что года через 2—3 наши леса перестанут быть грибными.

Поэтому, считаю, нужны какие-то государственные акты, регламентирующие сбор лисичек.

**Иван ГОНЧАРОВ, ветеран войны и труда.**

г.Рогачев.

*Это нельзя забывать*

## Полвека назад в Минске были расстреляны тысячи узников гетто

**21—23 октября 1943 года в оккупированном Минске фашисты уничтожили последних из более чем ста тысяч узников гетто. Сюда были привезены и расстреляны тысячи евреев из Германии, Австрии, Чехословакии, Польши и других стран Европы.**

Десятилетиями эта трагедия еврейского народа, ставшая, по сути, трагедией белорусского народа, ибо трудно разделить культуры народов, проживших вместе мирно не одну сотню лет, замалчивалась официальной пропагандой. И сегодня, к величайшему сожалению, мало кто из минчан, жителей Беларуси знает правду о тех страшных днях.

Недавно евреи—выходцы из нашей страны создали общественную организацию "Всемирная ассоциация евреев Беларуси". По их инициативе в Беларуси, США, Израиле и других странах пройдут дни скорби, посвященные 50-летию уничтожения евреев в Беларуси.

Вчера состоялась пресс-конференция белорусского оргкомитета. Журналистам было сообщено, что его возглавил Председатель Верховного Совета Беларуси Станислав Шушкевич, туда вошли также известные деятели науки и культуры республики. Распространено обращение, в котором оргкомитет призывает всех граждан Беларуси 21—23 октября принять участие в Днях памяти евреев, погибших на территории республики в годы Великой Отечественной войны. Это не означает предпочтительности этого народа перед павшими других национальностей. Это акт всеобщей скорби о тех, кто погиб только из-за своей этнической принадлежности.

**Юрий НОЯРОВИЧ.**

*Погляд*

## Як бы там ні было, але пад Оршай беларускі вой засланяў грудзьмі сваю Бацькаўшчыну

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ**

Нашая выканаўчая ўлада надзвычай хваравіта адрэагавала на ініцыятыву прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычных сіл адзначыць 8 верасня Дзень беларускай вайсковай славы, прыўрочаны да чарговай гадавіны перамогі войскаў Вялікага княства Літоўскага над маскоўскай дружынай пад Оршай у 1514 годзе.

Забаронена большасць мерапрыемстваў, якія ініцыятары меркавалі правесці ў Мінску: мітынг, шэсце, сімвалічная клятва вайскоўцаў запасу... Дазволілі толькі правесці на плошчы Парыжскай камуны музычна-літаратурную праграму, і то пры ўмове, што разгорнуты сцэнарый пройдзе перад тым кампетэнтную экспертызу ў "органах"...

У аналагічным духу дзейнічаюць і мясцовыя ўлады па-за межамі сталіцы — у прыватнасці, забаронены адпаведныя мерапрыемствы ў Віцебску.

Ангажыраваная ўладамі прэса, кіруючыся ўказаннем "разъяснять историческую правду о планируемой акции", дала па "нацыяналістах" дружны залп.

Што ж, усё вяртаецца на "круги своя". Зноў на ролю адзіных і неаспрэчных знаўцаў гістарычнай праўды прэтэндуюць гаспадары прасторных службовых кабінетаў. Але само па сабе гэта было б яшчэ паўбяды. Горай, што зноў, як і ў блаславёныя ранейшыя часы, астатнім грамадзянам дырэктыўна прадпісваецца разумець гістарычную праўду толькі так, як трактуюць яе нашыя шаноўныя начальнікі. Хоць немагчыма ўявіць, каб недзе на Захадзе нейкі "адказны работнік" забараніў бы, напрыклад, свята камуністычнай газеты на той падставе, што сам ён не згарае ад любові да дактрыны Маркса—Энгельса—Леніна.

Скажу шчыра: калі заходзіць гаворка пра крывавыя падзеі мінуўшчыны, у тым ліку і пра бітву пад Оршай, то асабіста я, напрыклад, не адчуваю палкага жадання біць у барабан. Мне падаецца, што тут больш дарэчы спакойны, філасофскі роздум пра драматызм чалавечай гісторыі, пра тую страшэнна дарагую цану, якую мусілі заплаціць народы свету, каб прыйсці нарэшце да цывілізаваных прынцыпаў суіснавання. Але разам з тым варта з разуменнем паставіцца да матываў, якімі кіруюцца ініцыятары святкавання Дня беларускай вайсковай славы. Гэта не экстрэмісты, не правакатары і не русафобы. Гэта людзі, у якіх баліць душа за занядбанасць гістарычнай спадчыны, нацыянальнага духу беларусаў. Ставячы пэўныя акцэнты на тых ці іншых гістарычных падзеях, яны імкнуцца нагадаць суайчыннікам, маса якіх пад уздзеяннем шматгадовай мэтанакіраванай прамыўкі мазгоў пакутуе сёння на комплекс нацыянальнай непаўнацэннасці: у нас, беларусаў, таксама ёсць свой гонар, свая слава. Як бы там ні было, але тады, пад Оршай, беларускі вой біўся на роднай зямлі супраць тых, хто хацеў яе скарыць, і за спінай у яго была родная хаціна, і, сціскаючы дзіду, ён уяўляў заплаканы твар сваёй жонкі і спалоханыя вачаняты сваіх крывінак... Для яго гэта была святая бітва за Бацькаўшчыну, і трэба дасягнуць надзвычайнай ступені адчужанасці ад сваёй нацыі, проста душэўнай глухаты, каб сёння гэтага не разумець.

Можна пачуць спасылкі на тое, што "надуманные празднества 8 сентября" крыўдзяць паўнамоцных прадстаўнікоў "вялікай суседкі". Калі гэта так, то каму-кольвечы не шкодзіла б, бадай, трохі павучыцца тактоўнасці, напрыклад, у пасла Францыі пана Клода Жаліфа, які знайшоў дакладную, мудрую ноту, выступаючы на публічным адкрыцці помніка на месцы разгрому французскіх войскаў пад Барысавам падчас вайны 1812 года...

Абурацца ж тым, што беларусы ўшаноўваюць памяць мужных продкаў — абаронцаў Радзімы, можна толькі з пазіцый імперскага, вялікадзяржаўнага менталітэту, адмаўляючы беларускай нацыі ў праве на сваю гісторыю, сваю годнасць, урэшце — на ідэалы незалежнасці.

І толькі ну зусім ужо белымі ніткамі можна прышыць ініцыятарам свята 8 верасня абвінавачванне ў "пропаганде с целью возбуждения национальной вражды или розни". Зыходзячы з такой логікі, трэба аб'явіць злачынствам і святкаванне гадавіны Кулікоўскай бітвы ці, напрыклад, забараніць адпаведныя мерапрыемствы з нагоды 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкай навалы, да якіх актыўна рыхтуецца наш урад. Між іншым арганізатары ўрачыстасці 8 верасня ў Мінску зусім не зводзяць сэнс святкавання да гадавіны бітвы пад Оршай. Не выпадкова плануецца пачаць з ускладання кветак да абеліска на плошчы Перамогі. Па словах кіраўніка Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалая Статкевіча, будзе ўшанавана памяць усіх беларускіх ваяроў, у якія б часы і пры якім грамадска-палітычным ладзе ні змагаліся яны за Бацькаўшчыну.

Клопат жа пра дзяржаўную бяспеку, пра стабільнасць міжнацыянальных стасункаў з боку пэўных дзяржаўных асоб не можа не здзіўляць сваёй выбіральнасцю. Чамусьці заўсёды гнеў скіроўваецца на тых, хто спавядае ідэал незалежнай Беларусі. А вось тыя, хто публічна плюе на яе суверэнітэт, прапагандуе замшэлыя імперскія лозунгі, зневажае нашыя дзяржаўныя сімвалы і вышэйшую службовую асобу рэспублікі, адчуваюць сябе як у Хрыста за пазухай...

Урэшце, падаецца, што нашыя ўладу маючыя проста яшчэ раз наступаюць на тыя самыя граблі. Давайце згадаем, колькі ачкоў набраў Народны фронт, калі восенню 89-га ўлады выкацілі вадамёты супраць тых, хто прыйшоў аддаць даніну памяці курапацкім ахвярам. Пасажы са службовых папер, народжаных у апаратных нетрах у сувязі з датай 8 верасня, адпаведныя публікацыі ў ангажыраванай прэсе фенаменальна сугучныя духу скіраваных супраць "нацыянал-экстрэмістаў" адыёзных артыкулаў, што пад прымусам друкаваліся ва ўсіх газетах рэспублікі тады, у 89-м. Так што энтузіясты нацыянальнага Адраджэння могуць быць па-свойму ўдзячныя саўмінаўскім чыноўнікам. Няцяжка прадбачыць, што заўтра на мінскую плошчу, што побач з тэатрам оперы і балета, прыйдуць прыняць удзел ва ўрачыстасцях і тыя, хто раней туды не збіраўся, — спрацуе эфект фронды.

А можа, такім мудрагелістым чынам адпаведныя высокапастаўленыя асобы патаемна спрыяюць уздыму беларушчыны?

Тады я здымаю перад імі капялюш.

### АД РЭДАКЦЫІ.

***Калі гэты матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, прэс-службы Беларускага згуртавання вайскоўцаў і Задзіночання беларускіх студэнтаў паведамілі пра інцыдэнт, які меў месца на сталічнай плошчы Незалежнасці 5 верасня падчас прыняцця прысягі курсантамі вайсковых вучэльняў. Як сцвярджаюць памянёныя прэс-службы, у групы студэнтаў, што прыйшлі на ўрачыстасць, вайскоўцы адабралі плакаты "Вітаем нашчадкаў аршанскіх ваяроў!", "Жыве беларускае войска!"... Тое, што інцыдэнт з плакатамі сапраўды меў месца, пацвердзіў і прадстаўнік Мінабароны сп. Замяталін.***

***Вось так на роўным месцы і ствараецца глеба для небяспечнай канфрантацыі.***

***Каму гэта трэба?***

*Поживем — увидим*

## В Минск придет "Весна". Из Чехии...

**Андрей АРШАНСКИЙ**

**В число новых партнеров Беларуси вступают и предприятия из страны, появившейся на карте Европы 1 января 1993 года — Чехии.**

Несколько ведущих чешских фирм представят свою продукцию на выставке "Чешский сезон", которая откроется в Минске в середине сентября.

С белорусской стороны в качестве партнера по проведению выставки выступает коммерческая фирма "Илта". О совместных планах подробно говорилось на недавно прошедшей пресс-конференции, в которой приняли участие представители Беларуси и Чехии. Выгоды от налаживания мостов сотрудничества очевидны: так, фирма "Селико" намерена инвестировать в белорусскую экономику около 100 миллионов долларов с тем, чтобы были созданы предприятия по производству детского питания, продуктов, напитков. "Селико", имеющая доход 50 миллионов долларов в год, а также "Итона", "Козак" покажут, как говорится, товар лицом.

Особый интерес для белорусских потребителей представит фирма "Весна". Это один из крупнейших производителей мебели для офисов, банков, ресторанов, гостиниц, а также удобной бытовой. Сделанные по современным технологиям изделия фирмы отличаются превосходным дизайном, очень практичны и удобны. Антонин Катасик — коммерческий директор "Весны" — считает, что фирму ждет у нас успех. Маркетинговые исследования показали, что предлагаемая жителям нашей республики импортная мебель некоторых других фирм либо очень роскошна и цены соответственно недостижимы, либо просто примитивна. В случае же заинтересованности потребителей в продукции "Весны" ее предполагается реализовывать за "твердую минскую валюту", как выразился на пресс-конференции, посвященной предстоящей выставке, чешский представитель. В отношении цен на мебель он также был оптимистичным.

Вероятно, также интересно будет познакомиться и с опытом хозяйствования на этом предприятии, которое было приватизировано два года тому назад, — в предвидении грядущей у нас приватизации такая информация не окажется лишней.

Приходите на промышленную выставку в сентябре — все увидите и услышите сами.

*Навіны двума абзацамі*

## У інтэрнаце, у казарме

**Завяршыўся чарговы прыём студэнтаў у Мінскую духоўную семінарыю, размешчаную ў пасёлку Жыровічы, што недалёка ад Слоніма.**

У адрозненне ад папярэдніх гадоў цяпер ствараецца толькі адна група слухачоў замест звычайных дзвюх. Тлумачыцца гэта вельмі вострым недахопам як падручнікаў, так і жылых плошчаў. Па гэтай прычыне ў семінарыі, дзе цяпер толькі на стацыянары займаецца больш за 200 студэнтаў, вымушаны пераабсталёўваць пад вучэбныя аўдыторыі нават склады для мэблі, а ў перапоўненым інтэрнаце ўстанавіць двух'ярусныя ложкі накшталт тых, што выкарыстоўваюцца ў салдацкіх казармах.

## Бітва за ўраджай па-васілевіцку

**У сапраўдную бітву за збожжа ўступіў трыццаціпяцігадовы жыхар горада Васілевічы, які працуе ў Рэчыцкім меліярацыйным упраўленні.**

На досвітку, збіўшы вартаўніка саўгаса "Сцяг Перамогі", які перагарадзіў яму дарогу, ён забраў два мяшкі ячменю. Работнікі праваахоўных органаў лёгка затрымалі грабежніка. Але сам факт, разам з абурэннем, выклікаў у гаспадарцы немалое здзіўленне: што вымусіла здаровага мужчыну пайсці на такія крайнія меры. Голаду, дзякуй Богу, у Беларусі няма.

**Белінфарм.**

